**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 37 (858) 15 верасня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





**На аграсядзібе спадарства Мельнічэнкаў “Утрына” у вёсцы Маргі прайшоў першы на Беларусі экафестываль “Экалэнд - 2016”.** Працяг тэмы на стар. 4. *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



ISSN 2077-8023



## Сенненскі раён

# Аб’екты застануцца людзям

■ Чэслаў Якубовіч.

**Хоць у Беларусі адмовіліся ад правядзення рэспубліканскіх “Дажынак”, але многія мястэчкі хацелі б атрымаць права правядзення ў сябе такіх свят хлебаробаў абласнога ўзроўню.**

Вось і ў райцэнтры Сянно летась многія ўзрадаваліся такому рашэнню кіраўніцтва вобласці прыняць тут хлебаробскі фестываль, таму з ранняй вясны гарадок стаў нагадваць суцэльную будаўнічую пляцоўку. У пачатку восені сеннянцы ўжо рады пазітыўным зменам да лепшага, дзе будаўнікі паспелі закончыць рэканструкцыю цэнтральнай плошчы са скверам і паркам Трох герояў. Гараджан усцешыла асабліва, што абладрбуд і ДЭУ з Лепеля адрамантавалі добра мясцовыя дарогі, абнавілі дарожныя знакі, абсталявалі павільёны на прыпынках аўтобусаў. У райцэнтры ўдалося правесці значны рамонт жылфонда, замяніць дахі і ўцяпліць 31 шматпавярхоўку. У правядзенні рамонту жылых дамоў удзельнічалі і спецыялісты знакамітай Круглянскай ПМК з Магілёўскай вобласці. Самым жа значным аб’ектам, узведзеным да абласных “Дажынак”, стаў новы прыгожы будынак раённага Загса, бо раней міжволі псаваўся настрой у маладых, калі яны рэгістравалі свой шлюб у непрывабным памяшканні за вуглом старога дома. Побач з сучасным будынкам паўстаў і прыгожы фантан для захаханых. Абодва аб’екты ўрачыста адкрыюць падчас абласнога фестываля-кірмаша працаўнікоў вёскі. Не пазнаць стала абноўленыя будынкі музея, Дома культуры, дзіцячай бібліятэкі. Будаўнікі віцебскага будтрэста №9 вярнулі да жыцця мясцовы ФАК і пачалі рэканструкцыю гарадскога стадыёна, на якім гуляе чэмпіён і ўладальнік Кубка вобласці па футболе сеннэнскі “Камунальнік”.

## Дубровенскі раён

# За парты ... да суседзяў

■ Станіслаў Раманчук.

**У параўнанні з савецкім часам, новых школ у краіне ўзводзяцца адзінкі, а яшчэ болей цяпер закрываюцца з-за недахопу вучняў у сельскай мясцовасці.**

Сёлета на Віцебшчыне давялося закрыць яшчэ 22 установы адукацыі, а яшчэ 30 школам панізілі іх статус. У адрозненне ад іншых, у СШ №1 Дуброўна навучэнцаў хапае, але на ўрачыстасць першага званка большасць з 600 школьнікаў і іх бацькоў прыйшлі ў змрочным настроі. На лінейцы было аб’яўлена, што толькі вучні 1-2 класаў змогуць пачаць вучобу ў старым корпусе роднай школы, іх прадоўжаць карміць абедамі са школьнай сталовай. Больш старэйшых дзяцей напаткалі пэўныя нязручнасці. Толькі ў сярэдзіне лета з дапамогай сродкаў Сусветнага банка на капітальны рамонт гэтай школы, пабудаванай 40 гадоў назад, выдзелі 1 млн. дэманаваных рублёў. Хоць будаўнікі і стараліся, але за кароткі тэрмін да новага навучальнага года, фізічна было немагчыма выканаць вялікі аб’ём работ, замяніць старыя вокны на сучасныя шклопакеты. Фактычна ад старога памяшкання застануцца толькі ранейшыя сцены, а пасля рамонту класы і кабінеты стане не пазнаць. У лепшым выпадку адбудзецца гэта ў кастрычніку, а пакуль вучняў першай школы размеркавалі каго куды. Малодшыя школьнікі з 3-га і 4-га класаў перайшлі вучыцца часова ў мясцовы цэнтр дзяцей і моладзі, дзе для іх пераабсталявалі для заняткаў актавую залу і гімнастычны пакой. Многіх бацькоў старшакласнікаў непакоіць, што іх дзецям прыйдзецца хадзіць на ўрокі на другі бераг Дняпра ды яшчэ ў другую змену, у СШ №2 райцэнтра. Адна надзея, што такія цяжкасці часовыя. Праўда, у Прыддзвінні ў падобным становішчы апынуліся і вучні адной са школ Талачына. З-за затрымкі рамонтных работ не змаглі прыняць навучэнцаў у родных сценах яшчэ дзве сярэднія школы вобласці.

## Пастаўскі раён

# У IT-сферу са школы

■ Кастусь Александровіч

**Сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі з кожным годам усё болей пранікаюць у наша паўсядзённае жыццё, да якога трэба рыхтаваць маладыя пакаленні ўжо з ранняга дзяцінства**.

Перад першым званком у Варапаеўскай СШ, што ў Пастаўскім раёне, адбылася ўрачыстая і прыемная падзея. У той дзень у школу прыехалі спецыялісты з Парка высокіх тэхналогій з Мінска, каб разам з дзецьмі адкрыць кабінет інфармацыйных тэхналогій апошняга пакалення. Мясцовыя юнакі і дзяўчаты амаль 30 гадоў назад пачалі вучыцца тут працы на камп’ютарах пры дапамозе школы-пабраціма з Германіі. З цягам часу тая тэхніка састарэла, і 10 гадоў назад абнавілі камп’ютарны клас, у школе пачалі ўкараняць у навучанні мультымедыйныя сродкі, усё болей электронікі. Паколькі варапаеўцы ў раёне паказалі найлепшыя веды на прадметных алімпіядах, ім спонсары са сталіцы зрабілі такі важкі падарунак. Кампанія з 4-х тысяч праграмістаў “IBA Group” выканала і аплаціла работы па пракладцы сетак, аснасціла кабінет новымі 12 магутнымі камп’ютарамі, зручнай мэбляй. З дапамогай мінчан і іх праграм ужо з другога класа можна праводзіць у школе факультатыўныя заняткі нават па праграмаванні. На цырымоніі адкрыцця спецкабінета інфарматыкі намеснік дырэктара Парка высокіх тэхналогій А. Марцінкевіч выказаў спадзяванне, што мясцовыя выпускнікі паступяць вучыцца далей у прэстыжных ВНУ і змогуць працаваць потым у гэтай прэстыжнай айчыннай кампаніі.

Дарэчы, у той дзень яшчэ адзін падобны кабінет з сімволікай Парка высокіх тэхналогій быў урачыста адкрыты і ў Камайскай СШ, а супрацоўніцтва са школамі раёна вядучая IT-кампанія краіны збіраецца прадоўжыць і надалей.

# Аб самым надзённым

## ПАСЛЯ САМАЙ НЯЎДАЛАЙ АЛІМПІЯДЫ БЕЛАРУСІ ЛЕПШ МОЖА БОЛЕЙ ГРОШАЙ ТРАЦІЦЬ НА АЗДАРАЎЛЕННЕ НАЦЫІ?




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Добра яшчэ, што на галоўных стартах чалавецтва беларусы ўздымаліся на п’едэстал гонару часцей туркаў, чэхаў, румын, армян, літоўцаў, егіпцян і, нават, такой спартыўнай нацыі, як ірландцы. У далейшым далёка не факт, што на новай Алімпіядзе 2020 года ў Токіо Беларусі ўдасца выступіць не горш, чым цяпер.**

Напярэдадні 25-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларусі А. Лукашэнка павіншаваў з гэтай падзеяй свайго ўкраінскага калегу і пажадаў братняму народу міра і дабрабыту. У адрозненне ад беларускай сталіцы, у Кіеве і па ўсёй суседняй краіне прайшлі масавыя святочныя мерапрыемствы з унушальным ваенным парадам. Многім запомнілася, як украінскі лідар удала працытаваў там вершаваны радок паэта Маякоўскага: “товарищ москаль, на Украину шуток не скаль”. У сваю чаргу прапагандысцкія пракрамлёўскія тэлеканалы адрэагавалі даволі злобнымі, як заўсёды, рэпартажамі, украінцы ніякіх віншаванняў ад “старэйшага брата” не дачакаліся.

Адносіны паміж трымя славянскімі народамі зараз не самыя добрыя, праўда, паміж нашай краінай і паўднёвай жоўта-блакітнай суседкай, на шчасце, кантакты сяброўскія і ўзаемнавыгадныя. Гэта ў афіцыйнага Мінска з пуцінскай Масквой апошнім часам існуе напружанне, запахла нават прывідам чарговай нафтагазавай і харчовай вайны, а з украінцамі такіх супярэчнасцей няма. А вось што аб’яднала Беларусь, Украіну і азлобленую на многіх у свеце Расію – гэта тое, што надаўняя летняя Алімпійскія гульні ў Рыа-дэ-Жанейра сталі самымі няўдалымі ў іх суверэннай гісторыі. Рускіх атлетаў да таго ж не дапусцілі потым да Паралімпіяды з-за масавых махінацый з допінгам, а іх функцыянеры ўбачылі ў гэтым найперш палітыку, а не ўласныя хібы.

Спаборніцтвы ж на далёкай бразільскай зямлі даставілі, сапраўды, найперш шмат галаўной болі кіраўнікам Мінспорту і беларускіх спартыўных федэрацый. Нашы спартсмены выступілі на Алімпіядзе ў цэлым дастойна, але ж найгорш, чым раней. Медальны ўраджай беларусаў 1+4+4 сціплы, па вартасці ўзнагарод Беларусь стала 40-й у свеце, хоць перш уваходзіла ў 20-ку самых спартыўных дзяржаў свету. Беларускую зборную ў Бразіліі апярэдзілі не толькі ўкраінцы, але Узбекістан, Грузія, Азербайджан, мы прайгралі яшчэ больш бедным краінам Ірану, Кубе, Кеніі, КНДР.

Добра яшчэ, што на галоўных стартах чалавецтва беларусы ўздымаліся на п’едэстал гонару часцей туркаў, чэхаў, румын, армян, літоўцаў, егіпцян і, нават, такой спартыўнай нацыі, як ірландцы. У далейшым далёка не факт, што на новай Алімпіядзе 2020 года ў Токіо Беларусі ўдасца выступіць не горш, чым цяпер. Праўда, калі спачатку нашых алімпійцаў крыху папракалі за няўдачы, што паехалі туды нібыта турыстамі, то потым тон выказванняў змяніўся, паколькі добра вядома, што галоўны чалавек у беларускім спорце А. Лукашэнка, які з’яўляецца і прэзідэнтам НАК Беларусі.

З іншага боку ці так гэта важна ацэньваць любыя выступленні толькі табліцамі медальнага заліку. Як падаецца, больш актуальна, які ўзровень жыцця і заробкаў у канкрэтнай краіне, як працуюць яе заводы і фабрыкі, нарэшце, ці створана сучасная база для заняткаў фізкультурай і спортам дзяцей, па месцу жыхарства насельніцтва. Што датычыць беларускіх рэалій, скажам шчыра, у нас не хапае грошай на спорт высокіх дасягненняў, а яшчэ больш сродкаў на аздараўленне нацыі.

Існуючая база для заняткаў спортам састарэла, не хапае формы, абсталявання, сучаснага спортінвентару. У дварах і мікрараёнах вельмі мала пляцовак, каб дзеці бегалі, гулялі з мячом. У Беларусі, у параўнанні з іншымі, мала крытых плавальных басейнаў, многія стадыёны патрабуецца рамантаваць. Да таго ж, прыбаўляецца іншых сур’ёзных праблем. Да прыкладу, за апошнія 10 гадоў колькасць наркаманаў у Беларусі вырасла ў 7 разоў і значна памаладзела. Беларуская нацыя па-ранейшаму адна з самых пітушчых у свеце, курыць больш паловы мужчын і значная ўжо колькасць жанчын.

Таксама, калі наша краіна стане ўкладваць у падрыхтоўку атлетаў экстракласу яшчэ больш грошай, то ніхто не дасць вам гарантыі, што прыбавіцца колькасць заваяваных медалёў. У нас гадамі гавораць аб праблемах недахопу кваліфікаваных і асабліва маладых трэнераў, іх нізкіх заробках. З-за гэтага з дзецьмі мала хто жадае плённа працаваць, а лепшыя спецыялісты едуць рыхтаваць за граніцу канкурэнтаў беларусам. Пра гэта шмат гавораць, а ніякіх канкрэтных рашэнняў так і не прынялі. Папулярнасць большасці відаў спорту ў нашай краіне невысокая, на матчы нацыянальнага першынства і на гульні зборных Беларусі прыходзіць няшмат гледачоў. Моцных прафесійных айчынных спортклубаў таксама няшмат, таму што ў нас прыватны бізнес добра не развіты, а гэта яго аснова і база на Захадзе.

Тым часам, канкурэнцыя на сусветных спартыўных арэнах і ў эканоміцы таксама становіцца яшчэ больш вострай. У далёкай Бразіліі медалі заваявалі прадстаўнікі ўжо больш 90 дзяржаў. Таму парадуемся таму, што мы беларусы маем, і што сярод нас з’явіліся новыя нацыянальныя героі, як малады віцебскі хлопец батуцыст У. Ганчароў. Цяпер кіраўнікам Беларусі і айчыннай спартыўнай галіны трэба добра падумаць, як жыць і развіваць прафесійны спорт і фізкультуру далей, памятаючы, што ад масавасці залежыць далейшае ўзыходжанне самых моцных сярод іх на спартыўны Алімп.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 15.09.16 | | | | Пятніца 16.09.16 | | | | Субота 17.09.16 | | | | Нядзеля 18.09.16 | | | | Пан. 19.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +10 | +18 | +10 | +10 | +13 | +15 | +9 | +10 | +10 | +14 | +8 | +8 | +10 | +13 | +7 | +7 | +9 | +12 |
| Ціск | 751 | 750 | 749 | 747 | 745 | 744 | 744 | 745 | 746 | 747 | 748 | 748 | 748 | 749 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 |
| Вецер м/сек | 1 Пн-У | 0 ШТЛ | 2 Пн-З | 1 Пд-З | 3 З | 4 Пн-З | 6 Пн | 3 Пн | 2 Пн-У | 4 Пн-У | 2 Пн-У | 2 У | 1 У | 1 У | 1 Пн | 2 У | 1 Пд-У | 2 Пд | 3 З |
| Вільготнасць | 100 | 90 | 51 | 88 | 92 | 100 | 59 | 92 | 95 | 88 | 57 | 90 | 96 | 96 | 63 | 97 | 100 | 93 | 57 |

## Дзень за днём

**Беларусь дамовілася з "Газпрамам" аб зніжэнні цаны на газ на чвэрць. Скарачэнне паставак расійскай нафты выклікала зніжэнне на 0,2% ВУП Беларусі. Пры спадзе вытворчасці 65,4% айчыннай прадукцыі асела мёртвым грузам на складах. З 1 кастрычніка ў Беларусі ўвядуць безнаяўныя жыллёвыя субсідыі на частковую аплату паслуг ЖКХ. Velcom запусціў лічбавае тэлебачанне для камп'ютараў. У краіне з 837 газет і часопісаў толькі 32 выходзяць на беларускай мове. Замежным турыстам дазволілі наведваць Аўгустоўскі канал без віз да 5 сутак.**

# Важнейшыя навіны свету

**Італія.** Магутны землятрус магнітудай 6,2 балы ў цэнтральнай частцы краіны забраў сотні жыццяў, вельмі моцна пацярпелі гарадкі і вёскі ў горнай мясцовасці.

**Турцыя.** Пры падтрымцы авіяцыі армія краіны пачала наземную ваенную аперацыю ў Сірыі супраць баевікоў "Ісламскай дзяржавы" і курдскіх сепаратыстаў.

**КНДР.** Пасля запуску КНДР яшчэ двух балістычных ракет Савет бяспекі ААН заклікаў да надзвычайных мер у адказ, упершыню рэзка асудзіў свайго суседа-саюзніка Кітай.

**Сірыя.** Пасля працяглых перамоў у Жэневе ЗША не дамовіліся з Расіяй па аднаўленню рэжыму спынення агню ў краіне, там зноў шмат ахвяр сярод мірнага насельніцтва.

**Украіна.** Генпракуратура апублікавала запісы тэлефонных размоў дарадцы Пуціна С. Глаз'ева з доказамі падрыхтоўкі Крамля да гібрыднай вайны ў Данбасе і анексіі Крыма.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін зноў правёў раптоўную праверку боегатоўнасці трох ваенных акругоў, Паўночнага флоту, Паветрана-касмічных сіл і войскаў ПДВ.

**Венгрыя.** Прэм'ер-міністр В. Орбан і яго калега з Чэхіі Б. Соботка прапанавалі стварыць аб'яднаную армію ЕС, венгры 2 кастрычніка правядуць рэферэндум аб квотах мігрантаў.

**Польшча**. Падчас візіту ў Варшаву прэзідэнт Казахстана Н. Назарбаеў адмяніў для палякаў узяныя візы, абедзьве краіны дамовіліся нарошчваць эканамічнае супрацоўніцтва.

**Нарвегія.** Урад краіны пачаў узводзіць на граніцы з Расіяй загараджальны плот вышынёй 3,5 метры, каб абараніцца ад наплыву нелегальных мігрантаў, пераважна сірыйцаў.

**Літва.** Міністр энергетыкі Р. Масюліс паведаміў аб магчымай падачы літоўцамі іску да Беларусі з-за АЭС, якую хочуць зрабіць самай таннай у свеце па затратах на бяспеку.

**Балівія.** Падчас акцыі пратэсту шахцёры выкралі і забілі намесніка міністра ўнутраных спраў краіны Р. Ільянэса, перад гэтым паліцыя забіла двух пратэстуючых.

**Арменія.** Суд пакараў пажыццёвым зняволеннем салдата рускай ваеннай базы В. Пермякова за забойства армянскай сям'і з сямі чалавек у горадзе Гюмры.

**Швейцарыя.** Шквал абурэння ўзняўся ў Расіі пасля рашэння Спартыўнага арбітражнага суда ў Лазане адхіліць іх спартсменаў-інвалідаў ад удзелу ў Паралімпійскіх гульнях.

**Кітай.** Самай прэстыжнай кітайскай прэміяй "Веньцзьзінь" па літаратуры ўзнагародзілі ў Пекіне беларускую пісьменніцу С. Алексіевіч, яе кнігі папулярныя ў кітайцаў.

**Расія.** Журналіст К. Сабчак заявіла, што ў РФ любяць спорт з-за таго, што толькі ў гэтай сферы рускія могуць спаборнічаць з развітымі краінамі свету, а жывуць як габонцы.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Прафесар Б. Жэліба папярэдзіў, што прывід дэвальвацыі нацыянальнай валюты ўжо блукае па нашай краіне з-за абвальнага падзення экспарту айчынных тавараў 4-ты год запар.

**Астравец.** На ўзводзімай Беларускай АЭС будаўнікі ўстанавілі верхні ярус унутранай ахоўнай абалонкі будынка рэактара першага энергаблока магутнасцю 1200 МВт.

**Мінск.** Прэм'ер-міністр А. Кабякоў паабяцаў аказаць падтрымку неабароненым слаям насельніцтва пры змяненнях і павышэнні тарыфаў ЖКГ у новым ацяпляльным сезоне.

**Гродна**. На перадвыбарных тэледэбатах лідар АГП А. Лябедзька прапанаваў прэзідэнту падумаць сысці на пакой, паколькі краіна зайшла ў тупік з велізарнымі даўгамі.

**Магілёў.** Член Савета Рэспублікі І. Марзалюк заявіў, што Расія захопам Крыма, агрэсіяй у Данбасе ажыццявіла жудасную справу і разбурыла адзінства ўсходніх славянскіх народаў.

**Смаргонь**. Кандыдат у дэпутаты па акрузе №59 ад партыі "Зялёныя" Д. Крук падчас выступлення на БТ адзеў процівагаз, запатрабаваў спыніць будаўніцтва АЭС.

**Мінск.** Фінансавы аналітык групы BF.by А. Муха папярэдзіў, што праблемныя актывы беларускіх банкаў ушчыльную падышлі да парога бяспекі, да 5,969 млрд. новых рублёў.

**Барысаў.** Незадоўга перад звальненнем у запас у адной з воінскіх часцей мясцовага гарнізона салдат скончыў жыццё самагубствам, пачалі праверку прычын інцыдэнту.

**Мінск.** Эканаміст Л. Злотнікаў пацвердзіў, што ліберальная мадэль эканомікі Эстоніі аказалася намнога эфектыўней каманднай у Беларусі, заробкі ў эстонцаў ужо 1150 еўра.

**Мір.** Па ініцыятыве супрацоўнікаў музея-замкавага комплекса ў гарпасёлку ўстанавілі новыя шыльды з гістарычнымі назвамі 17 вуліц мястэчка ў XIX стагоддзі.

**Мінск.** Старэйшая ўнучка А. Лукашэнкі паступіла на платнае аддзяленне факультэта міжнародных зносін БДУ, сын прэм'ер-міністра стаў студэнтам яго ф-та радыёфізікі.

**Дразды.** Без А. Лукашэнкі і яго малодшага сына Колі ўбралі звыш 26 тон кавуноў з участка прэзідэнцкай рэзідэнцыі і даставілі прысмакі ў 6 садзікаў і ў Дом міласэрнасці.

**Барысаў.** Глава ФК БАТЭ А. Капскі паскардзіўся, што для некаторых ігракоў у клубе быў створаны сапраўдны санаторый, каманду чакае сур'ёзнае абнаўленне складу.

**Кобрын.** У пошуках самкі да гурта кароў прыбіўся малады зубр і не адыходзіў ад статку 10 дзён, пакуль яго не злавілі і завезлі ў вальеры нацпарка "Белавежская пушча".

**Мінск.** Паўторныя праверкі выявілі допінг у беларускіх цяжкаатлетаў А. Рыбакова і А. Новікавай, у іх забяруць сярэбраны і бронзавы медалі Алімпіяды-2008 у Пекіне

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Мінімальная заработная плата за жнівень індэксуецца на 5,4%



■FINANCE.TUT.BY

**Памер месячнай мінімальнай заработнай платы (МЗП) за жнівень 2016 года індэксуецца, як і ў папярэднім месяцы, на 5,4%. У Мінпрацы і сацабароны растлумачылі, што гэта звязана з тым, што індэкс спажывецкіх цэн за жнівень не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца яе папярэдняй індэксацыі - чэрвеня 2016 года. Пра гэта паведамляе прэс-служба ведамства.**

Памер месячнай мінімальнай заработнай платы ў жніўні 2016 года склаў 239 рублёў 48 капеек.

Грашовыя даходы (заработная плата, дзяржаўныя стыпендыі навучэнцам, стыпендыі клінічным ардынатарам, стыпендыі работнікам, накіраваным на павышэнне кваліфікацыі, перападрыхтоўку, стажыроўку ў вочнай (дзённай) форме навучання ў іншы населены пункт), якія атрымліваюцца з бюджэтных крыніц, і заработная плата дзяржаўных служачых і прыраўнаваных да іх асоб, грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага складу, грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых тэрміновай ваеннай службы, суворачаў, выхаванцаў воінскіх часцей, курсантаў ваенных навучальных устаноў за жнівень 2016 года не індэксуюцца, так як індэкс спажывецкіх коштаў не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца іх папярэдняй індэксацыі - красавіка 2016 года.

Устаноўленыя ад базавай велічыні дапамогі па беспрацоўі і стыпендыі грамадзянам у перыяд прафесійнай падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі па накіраванні органа па працы, занятасці і сацыяльнай абароне гарадскога, раённага выканаўчага камітэта індэксуюцца на 5,4%, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за жнівень 2016 года не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца іх папярэдняй індэксацыі (чэрвень 2016 года).

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі або пагадненнямі.

Грашовыя даходы насельніцтва за жнівень 2016 года, якія падлягаюць індэксацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам, індэксуюцца ў межах 175 рублёў 50 капеек - 100 працэнтаў зацверджанага бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, які дзейнічае на момант індэксацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Праверкі абласной пракуратуры выявілі сёлета 5114 фактаў гібелі кароў у гаспадарках вобласці з-за грубых парушэнняў кармлення і ўтрымання статку на фермах.

**Гарадок.** Да 6 год турмы пагражае 54-гадовай жыхарцы райцэнтра і яе сужыцелю, якія днём скралі зерне з хлебапрыёмнага ўчастка, каб абмяняць на грошы для выпіўкі.

**Бягомль.** Напярэдадні святкавання Дня гарпасёлка на мясцовых могілках адкрылі помнік 107 землякам, загінуўшым ад рук фашысцкіх захопнікаў у гады вайны.

**Полацк.** У рэстаране "Росквіт" прайшло свята "З Зышываннакай да Дня ведаў" з паказам беларускага адзення, дэгустацыяй страў нацыянальнай кухні, дыктоўкай і канцэртам.

**Віцебск.** На лінейкі 1 верасня вучні многіх школ і гімназій горада прыйшлі без кветак для настаўнікаў, грошы пайшлі на выратаванне жыцця 4-гадовай віцьбляндкі ў Германіі.

**Ушачы.** Пасля маштабнай рэканструкцыі ў райцэнтры адкрыўся дзіцячы сад-яслі №4, у раёне ніводнай школы не закрылі, але за парты селі толькі 1253 юнакі і дзяўчаты.

**Глыбокае.** На цэнтральнай плошчы горада правялі зноў свята "Бывай, лета! Добры дзень, школа!" з выставай кветак у цудоўнае надвор'е, канцэртам, кірмашом да школы.

**Паставы.** Мясцовага музыканта Валерыя Кетрыса запрасілі на працу ў Кітай дапамагчы арганізаваць сімфанічны аркестр Сычуаньскага ўніверсітэта культуры і мастацтва.

**Талачын.** Ля кантэйнерных скрынь у райцэнтры ўстанавілі перасоўныя фоталавушкі, штрафуюць тых, хто выкідвае буйнагабарытнае смецце з раслиннымі адходамі.

**Гарадок.** На паўторным аўкцыёне фонду "Віцебскаблмаёмасць" удалося прадаць недабудаваны санаторны комплекс з 3-мя будынкамі і зямельным участкам 1 гектар.

**Мёры.** Следчы камітэт пачаў шукаць злодзеяў, якія на ўчастку аўтадарогі Полацк-Мёры-Браслаў скралі 11 дарожных знакаў і металічных слупоў да іх.

**Віцебск.** Пасля банкрутства турфірмы "Бефана" яе дырэктар перарэзала сабе вены, горла, і патрапіла ў рэанімацыю, падманутымі апынуліся дзясяткі кліентаў, ідзе следства.

**Шуміліна.** Раніцай на чыгуначным перагоне Язвіна-Шуміліна з мэтай самагубства лёг пад грузавы поезд і загінуў 58-гадовы жыхар райцэнтра.

**Браслаў.** Вечарам паблізу вёскі Бузіла разбіўся трохмесны гідрасамалёт-амфібія "Чэ-23М", па дарозе ў бальніцу памёр пасажыр, другога з лётчыкам шпіталізавалі ў бальніцу.

**Мёры.** За размяшчэнне на сваёй старонцы ў сацсетцы "В контакте" відэа парнаграфічнага зместу суд пакараў жыхара раёна 2 гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на год.

**Орша.** Разам з літоўцамі да ўдзелу ў адкрытым чэмпіянаце Беларусі па хакеі дапусцілі армянскі "Арарат", які будзе тут прымаць сапернікаў, а трэніравацца ў Віцебску.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентств і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

# Маргі. Жыццё ў гармоніі з прыродай!

**У мінулую суботу ў вёсцы Маргі прайшоў першы на Беларусі экалагічны фестываль "Экалэнд-2016". Арганізавалі фестываль гаспадары аграсядзібы "Утрына" – сям'я спадарства Мельнічэнкаў. Сама ж аграсядзіба – плён працы: маці і двух сыноў – Рамана і Руслана.**

Аграсядзіба створаная, фактычна, з нуля! Прадаўшы 3-пакаёвую кватэру ў Глыбокім, Мельнічэнкі за гэты кошт купілі закінуты хутар у самай глыбоцкай глухмені і ператварылі яго ў дагледжаную і вялікую гаспадарку. У аснове аграсядзібы – развіццё альтэрнатыўнай сельскай гаспадаркі, садоўніцтва і агародніцтва, якое пераходзіць у турыстычную базу, што дае чалавеку магчымасць спазнаць і ўвачавідкі ўбачыць кардынальна іншыя спосабы яе вядзення і арганізацыі.

Адметнасць аграсядзібы "Утрына" складаецца ў стварэнні пасялення, дзе ўмовы набліжаныя да дзікага натуральнага асяроддзя. Базай для гэтага стаў мясцовы ландшафт, які складаецца з лясоў, балот, сенажацяў і іншых асаблівасцяў тэрыторыі, якія дапаўняюцца высокапрадуктыўнымі лугавымі сістэмамі, натуральнымі вадаёмамі, стварэннем тут натуральных хованак і размяшчэння на гэтай тэрыторыі вызначаных розных жывёл, птушак, здольных да сумеснага пражывання, што пры гэтым дапаўняе кармавую базу адзін аднаго. Ствараючы тым самым мікраклімат для бурнага развіцця казурак, птушак, амфібій і гэтак далей. На фоне монакультурных сістэм, тут ствараецца шматтысячная разнастайнасць расліннага і жывёльнага свету.

Гаспадары аграсядзібы не застаюцца абыякавымі да актуальных задач экалогіі і кормавытворчасці. І прымаючы асабістую адказнасць за сітуацыю, якую стварылі, наколькі гэта магчыма, засяродзіліся на тым, што канкрэтна можна зрабіць у гэтым кірунку.

Гаспадары аграсядзібы жадаюць прыйсці да балансу ва ўласным жыцці. Робяць высновы на сваіх поспехах і няўдачах, пашыраюць сваё бачанне на свет, у якім жывуць.

Спадарства Мельнічэнкаў гатовае падзяліцца сваім запалам, доседам з іншымі. Гэта дае ім магчымасць дамагчыся яшчэ большых вынікаў.

Вядоўца фэстывалю – Наталля, жонка Рамана Мельнічэнкі – патлумачыла сэнс фестывалю:

***– Гэта наш з вамі фестываль! Мы ставім на мэту радкоў розныя сферы дзейнасці. Розных людзей. Людзей таленавітых. Хтосьці з іх спявае, хтосьці вышывае, нехта вяжа, ці пляце з лазы, хтосьці робіць творы з дрэва. Усе яны таленты ў сваёй сферы. Усё гэта можна ўбачыць тут на нашым фестывалі!***

Як на меркаванне аўтара гэтых радкоў, сама арганізацыя фестывалю для маштабаў вёскі Маргі – дадатная. Праглядаецца сама ідэя – заахвоціць людзей жыць у сельскай мясцовасці, жыць у гармоніі з прыродай, навакольным асяроддзем! На фестываль былі запрошаныя народныя майстры са сваімі творамі, якія арганізавалі выставы, а таксама паказалі сам творчы працэс. Ахвотныя змаглі набыць і творы народнага мастацтва.



Усе сабакі маюць жыллё не горшае, чым у гаспадароў сядзібы.



Гэтая сям'я, госць фестываля, змяніла тлумны Мінск на ціхую вёску Дабрэзіна і займаецца народнай творчасцю. У Маргі яна прыехала са сваімі творамі.

Прыехала нямала гасцей з розных куткоў краіны, што вынікала і з нумарных знакаў аўтамабіляў, а гэта, у сваю чаргу, сведчыць – у спадарства Мельнічэнкаў шмат аднадумцаў і прыхільнікаў. Завіталі два фальклорныя гурты з Падсвільскага Дома культуры – "Весялушкі" і "Падсвільчанка". Прыемна, што гаспадары аграсядзібы прапагандуюць беларускую культуру.

Вялікую цікавасць у прысутных выклікаў майстар-клас паварoў мінскай кавярні-гасцінай "Чэхаў" па гатаванні блюдаў беларускай кухні. І што асабліва прывабна як для экафестывалю – з экалагічна чыстых беларускіх мясных і раслінных інгрэдыентаў. Потым адбылася дэгустацыя прыгатаванага. Некаторыя зацікаўленыя ахвотныя і атрымалі рэцэпты ад кавярні-гасцінай.

Далей, бліжэй да вечара, чакаўся пад'езд байкераў, а таксама – вы не паверыце! – самых сапраўдных індзейцаў! Дарэчы, на аграсядзібе, на фоне лесу, усталяваныя тры індзейскіх вігвамы, якія прыцягваюць увагу ўсіх гасцей.

Першы блін, як кажуць, комам! Арганізацыя любога мерапрыемства патрабуе вялікіх грашовых выдаткаў, і гэтыя выдаткі трэба неяк акупіць. Аднак, аўтару падаецца, што на першы фестываль, які яшчэ не так "раскручаны" на Беларусі, а перадусім, на самой Глыбоччыне, рабіць уваходны білет коштам у 150 тыс. "старых" рублёў, было пакуль заўчасна. Не ўсе, натуральна, здольныя аплаціць такі кошт! Некаторых гэта якраз і адпугнула! На мерапрыемства магло б завітаць нашмат больш гасцей. Мяркую, што арганізатары фестывалю з гэтага зробяць пэўныя высновы. Магчыма, для гэтай мэты трэба прыцягваць зацікаўленых у тэме экалогіі, спонсараў.

З іншага боку – вельмі ўсцешна, што не толькі дзяржава здольная арганізаваць падобны фестываль, а, перадусім, прыватныя асобы, у нашым выпадку – сям'я.

Чалавек можа "шукаць сябе" усё жыццё і не знайсці! Сям'я Мельнічэнкаў "знайшла сябе" ў вёсцы, якая, ужо дарэчы, была знікла з карты Беларусі. Рэалізавалі тут свае мары і планы. Дзякуючы ім вёска Маргі вярнулася з забыцця! Гэта добры прыклад для ўсіх нас, бо нават дзяржаўныя чыноўнікі не ведаюць: як даць рады, каб уратаваць беларускую вёску ад знікнення!



Вігвамы (жыллё лясных індзейцаў поўначы Амерыкі) рамантычна ўпісваюцца ў краявід Маргоў.



Майстар-клас па прыгатаванні фірмовых страваў кавярні-гасцінай "Чэхаў" з Мінска. У працяг – дэгустацыя прыгатаванага прысутнымі.

■ Кліменцій Кожан,
*краязнаўца, м. Германавічы.*

# Будзем памятаць

Не верыцца, што няма сярод нас вядомага беларускага краязнаўца Іосіфа Уладзіміравіча Бунто. Я пазнаёміўся з ім 35 гадоў назад. Ён знайшоў мой хатні тэлефон і пазваніў мне. Тады я пачынаў друкаваць артыкулы на краязнаўчыя тэмы ў раённай газеце. Яго цікавіла, што я знайшоў па гісторыі Шаркоўшчынскага раёна. У 1980-1990 гадах я ездзіў 4-5 разоў у год у архівы і бібліятэкі Вільні і 4 разы ў архівы і бібліятэкі Мінска. Збіраў матэрыялы для кнігі "Памяць". Часта ездзіў у Вільню і Мінск праз Глыбокае. Заходзіў да Іосіфа Уладзіміравіча. З ім было цікава сустрэцца і паразмаўляць. Ён, працуючы юрыстам у Глыбокім, аб'ездзіў увесь Савецкі Саюз, бываючы ў камандзіроўках. Усюды ён заходзіў у букіністычныя магазіны і купляў кнігі па гісторыі Беларусі. У яго склалася вялікая бібліятэка рэдкіх кніг, розных дакументаў, гістарычных



Іосіф Бунто

карт розных часоў. Іосіф Уладзіміравіч утрымліваў у сваёй памяці мноства гістарычных падзей, фактаў, дат. Ён ведаў біяграфіі многіх палітычных і грамадскіх дзеячаў. Гэта быў чалавек энцыклапедычных ведаў. Кіраўнікі энцыклапедычных выданняў – БелСэ, Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, Энцыклапедыі Вялікага княства Літоўскага, Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі – прасілі Іосіфа Уладзіміравіча напісаць артыкулы на тую ці іншую тэму. І ён напісаў сотні грунтоўных артыкулаў з дакладнымі фактамі і датамі. На аснове ўсяго зробленага для гэтых выданняў І.У.Бунто можна было б прысвоіць навуковую ступень кандыдата гістарычных навук. А так ён застаўся ў нашай памяці як гісторык-аматар, краязнаўца. Іосіф Уладзіміравіч цікавіўся не толькі гісторыяй Глыбоччыны, але і гісторыяй суседніх раёнаў Віцебскай вобласці і ўсёй Беларусі. Яго ведам можна толькі пазайздросціць. Яму лягчэй было запомніць, чым забыцца.

Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей і Глыбоцкі занальны архіў павінны зрабіць усё магчымае, каб захаваць кніжныя і дакументальныя зборы краязнаўца Іосіфа Уладзіміравіча Бунто для будучых пакаленняў даследчыкаў мясцовай гісторыі.

# Войны ў лёсе развіцця Дзісны

**У населеных пунктах, як і ў чалавека, ёсць свае перыяды: нараджэнне, развіццё, старасць. Дадаткова яшчэ хвароба, выздараўленне, смерць. Што б там не казалі, а за свае не менш 1000 год горад прайшоў гэтыя стадыі і знаходзіцца на мяжы смерці.**



**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог,*
*г. Дзісна*

Асаблівага росквіту дасягнуў у другой палове 19 стагоддзя, калі добра ішоў гандаль, развівалася рамяство, культура, дадатна вырашалася дэмаграфічнае пытанне. Гадавы тавараразварот сельгаспрадукцыі, расліноводства склаў 216000руб, жывёлагадоўлі – 45000, лясной і дрэваапрацоўчай – 176000руб. Па ўсіх відах гандлю і паслуг – 1599000руб. У 1884 годзе ў Дзісне 7000 жыхароў, ужо ў 1896 – 9113. Натуральны прырост быў больш 100 чалавек за год.

Асаблівага росквіту дасягнула Дзісна ў пачатковы перыяд 20 стагоддзя. З 1901 па 1909 год, за гэтых 9 год, нягледзячы на крызісную сітуацыю ў свеце, у Дзісне ў 1901 годзе пачалося будаўніцтва Дома народнай цвярозасці, коштам 9786руб., гарадскую бальніцу ў 1903 годзе, коштам 41523руб., на 100 ложкамесц, у 1903 годзе памяшканне казначэйства, коштам 24140руб. За 3 няпоўныя гады, 1907-1909 - мост праз р. Дзісну даўжынёй 70,12 сажняў.

Пачынаючы з 1905 года ў горадзе і ўездзе пачатак бурнага закупу ў насельніцтва малака, арганізацыя яго перапрацоўкі і продажу масла ў еўрапейскія краіны і гарады: Варшаву, Рыгу, Маскву, Ганover, Гамбург, Парыж, Лондан і іншыя. Масла па асобай тэхналогіі выпрацоўвалася на простым і танным абсталяванні, але было вельмі высокай якасці, яго фунт (400г) каштаваў на 2-4 шылінгі даражэй знакамітага Валагодскага. На жаль, арцельшчыкі не змаглі дадумацца зарэгістраваць асобую гандлёвую марку, і дзісненскае масла пастаўлялася пад маркай "Гальштынскага". Наколькі ўдачна развівалася гэта галіна, можна судзіць па наступных фактах. Калі ў 1905 годзе было адпраўлена масла толькі ў Англію на 10000руб, то ўжо ў 1908 годзе – на 175000руб., а ў 1910 годзе – на 260000руб. Каб відавочна ўявіць гэтыя лічбы, раю паважанаму чытачу параўнаць іх з коштам будаўніцтва Дома народнай цвярозасці і памяшкання казначэйства.

Дзісненскі ўезд славіўся не толькі сырод іншых уездаў, але і далёка за межамі якасцю свайго льновалакна, якое выраблялі ў вялікай колькасці. Натуральна, было дастаткова і такога тавару, як льносемя. Гэтыя і іншыя поспехі ў земляробстве зацікавілі дзелавых людзей іншых губерній і ўездаў. А таму было вырашана ў Дзісне ў верасні 1914 года правесці выставу птушкагадоўлі і жывёлагадоўлі. На жаль, аб гэтым запланаваным мерапрыемстве звестак у шырокай агласцы няма. Але што такое мерапрыемства намячалася, гаворыць газета "Магілёўсеі веснік" за 6 мая 1914 года №100. Тэма "Мясцовыя навіны": "З 1 жніўня 1914 года дазволена перавазіць па рускіх жалезных дарогах па льготных тарыфах экспанаты выставы птушкагадоўлі і жывёлагадоўлі, якая была б у верасні месяцы ў горадзе Дзісна Віленскай губерні (ст. Боркавічы Рыга-Арлоўскай чыгункі", (НІАБ, фонд 2435, опісь 1, справа 6, ліст 86). Гэтыя звесткі для таго, хто асабіста пажадае пазнаёміцца з газетай.



Спаленая Дзісна. У цэнтры – па-францысканскі касцёл. Здымак 1941 г.

Але ні адзін вагон з экспанатамі выставы не адправіўся ў Дзісну – 1 жніўня пачалася Першая сусветная вайна. Калі б выстава адбылася, яна б дала моцны штуршок для развіцця ва ўездзе жывёлагадоўлі, асабліва малочнай. Беларусы нічым не горшыя датчан. Нашы продкі, а ў гэтым я ўпэўнены, бо далейшыя падзеі пацвердзілі гэта, сваю назву "апараты" для перапрацоўкі сена ў гной, замянілі б на пародзістых, высокаўдойных кароў, ужо ў той час якія давалі больш шасці тысяч літраў малака ў год. У гэтым былі б зацікаўлены не толькі, а можа нават і не столькі самі сяляне, колькі дзелавыя людзі, якія займаліся перапрацоўкай малака і рэалізацыяй малочнай прадукцыі.

Першая сусветная, а потым Грамадзянская вайна на адным махам пастаcвілі крыж на гэтай падзеі. Больш таго, беларускі народ быў разарваны на дзве палавіны суседнімі дзяржавамі і жылі ў розных умовах.

Ваенныя падзеі, потым Рыжскі мірны дагавор некалькі затармазілі развіццё самога горада і ўезда. Цэнтр уезда быў перанесены ў мястэчка Глыбокае, куды і накіраваліся многія багатыя купцы, баючыся блізкасці савецкай улады ў Задзвінні. Але горад прадаўжаў жыць.

У сельскай мясцовасці сяляне па-ранейшаму замест нармальнага пагалоўя кароў, пародзістых з высокімі ўдоямі прадаўжалі трымаць старыя "апараты" па перапрацоўцы кармоў у гной. Да слова, гэтыя "апараты" запатрабаваны і ў наш час.

Праўда, з прычыны таго, што за "польскім часам" многім давялося паехаць на заробкі ў Францыю, ЗША, нават Аргентыну і іншыя краіны, пазнаёміліся з больш прагрэсіўным вядзеннем гаспадаркі, па вяртанню ў родныя мясціны, маючы некаторы капітал, паспрабавалі заняцца малочным бізнасам дома. Атрымалася і не дрэнна, але ўлады не былі зацікаўлены ў далейшым развіцці, хоць не перашкаджалі працаваць бізнэсмэнам.

Адзін з такіх дзелавых людзей Шантар. Па прыбыцці ў родныя мясціны, купіў у сіцькоўскага пана Гарунеўскага, уладальніка вялікага ўчастка зямель і леса, але вечнага даўжніка багацейшым мужыкам грошы, 50га зямлі ў Мядзельцах, побач з вёскамі Лугаўцы. Ён пабудаваў кароўнікі на 50 галоў, купіў, хоць не самую добрую, але высокапрадуктыўную скаціну, і заняўся вытворчасцю малака. Добра, што побач у Сіцькове была нейкая хаўрусная малочная, куды ён рэалізаваў малако. У Шантара з'явіліся вольныя грошы, а Гарунеўскі стаў яго даўжніком. Справа ішла да таго, што Шантар паступова завалодаў бы ўсёй зямлёй Гарунеўскага. Зямля давала б добрую аддачу. Але падзеі 1939 года як "вредный" клас знішчожылі і Гарунеўскага, і Шантара.

Яшчэ адзін дзелавы чалавек Ананіч таксама вярнуўся з заробкаў пры добрых грашах і адкупіў цэлую сядзібу Аляксандрава. У пойме ракі Дзісна добра расце пшаніца, лён, канюшына. Ён засярodзіўся на вытворчасці малака. Закупіў высокапрадуктыўных кароў. Малако на сепаратары пераганяў, адбіраючы смятану, якую прадаваў Дзісненскаму малаказаводу. Абрат перапрацоўваў у высокаякасныя сыры, якія прадаваў у Кракаве, Варшаве, іншых гарадах. Яго багацце расло як на драджах. Хоць на працу ў Амерыку ён паехаў бедняком.

Вось такі незайздросны лёс Першая сусветная вайна, а потым яе вынікі адыгралі ў лёсе Дзісны.

Аб выніках Другой сусветнай вайны для горада Дзісны я падрабязна ўжо пісаў у газеце.



Руіны былой бальніцы ў Дзісне і сёння ўражваюць.




Дзісна на здымку царскіх часоў.

## Фотафакт: Лявон Вольскі і Павел Аракілян выступілі на фэсце ў Параф'янаве



Фота Зм. Лупача.

# Своечасовы зварот за дапамогай спыніць гвалт!

■ **А.І.Гігола,**
*начальнік аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

Прафілактыка асацыяльных паводзін грамадзян у сферы сямейна-побытавых адносін, п'янства на сённяшні дзень адно з асноўных кірункаў дзейнасці органаў унутраных спраў. Крымінальным і адміністрацыйным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь прадугледжана шэраг артыкулаў кодэксаў, дзеянне якіх у асобных выпадках распаўсюджваецца на грамадзян, якія здзяйсняюць злачынствы ў побыце.

Да правапарушальніка ў сувязі з гвалтам у сям'і можа быць ужыта ахоўнае прадпісанне, якім ускладаюцца наступныя забароны:

- мець зносіны з пацярпелым;
- прадпрымаць спробы высвятляць месца знаходжання пацярпелага;
- наведваць месца знаходжання пацярпелага;
- распараджацца агульнай сумеснай уласнасцю,

а таксама абавязак часова пакінуць (ад 3 да 30 сутак) агульнае з пацярпелым жылое памяшканне.

Штогод у рэспубліцы ад рук блізкіх гінуць каля 120 чалавек, больш 250 атрымліваюць цяжкія цялесныя пашкоджанні. Своечасовы зварот за дапамогай спыніць гвалт, захавае Вам жыццё. Бясплатную ананімную кансультацыю па пытаннях гвалту ў сям'і Вы можаце атрымаць, патэлефанаваўшы на агульнанацыянальную гарачую лінію для пацярпелых ад хатняга гвалту (тэл. 8-801-100-8-801).

За 2016 г. у Глыбоцкім раёне ў сферы сямейна-бытавых адносін здзейснена 5 злачынстваў, з іх 4 прэвентыўнай скіраванасці, 1 прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

**З 14 па 18 верасня 2016г. на тэрыторыі раёна** праводзяцца мерапрыемствы па папярэджанні злачынстваў і правапарушэнняў у сферы сямейна-бытавых адносін "ПОБЫТ", калі Вам не абыякавыя здароўе і лёсы вашых блізкіх, на Вашых вачах адбываюцца п'яныя дэбошы са збіваннямі і пагрозамі, або Вы самі сталі ахвярай гвалту і беззаконня і па ўсіх гэтых выпадках. Вы можаце ананімна звярнуцца ў аддзел унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама, на кругласутачную **"гарачую лінію"**, па тэлефоне: 2-27-02. МТС: 597-21-74, Велком: 314-89-02 ці 102.

# Штотыдзень знаходзяцца "ахвотнікі" парушыць закон

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Глыбоцкая міжрайінспекцыя сістэматычна інфармуе грамадзян аб пакараннях, якія выносяцца парушальнікам прыродаахоўнага заканадаўства. Нягледзячы на велізарныя штрафныя санкцыі, крымінальную адказнасць, штотыдзень знаходзяцца "ахвотнікі" парушыць закон і вось чарговыя прыклады.

**2 жніўня 2016 года** інспектарамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на сажалцы г.п. Лынтупы былі затрыманы двое мясцовых жыхароў, грамадзяне Рымовіч Тадэвуш Уладзіміравіч і Балсан Томас Анатольевіч, якія з ужываннем забароненых прылад рыбалоўства, лесачных сетак, спрабавалі здабыць рыбу, аднак іх мары і жаданні не спраўдзіліся. Супрацоўнікі інспекцыі спынілі незаконную здабычу рыбы і склалі адміністрацыйныя пратаколы. 23 жніўня 2016 года суд Пастаўскага раёна разгледзеў матэрыялы ў адносінах затрыманых і вынес пакаранне ў выглядзе штрафу на суму 525 рублёў кожнаму.

**19 жніўня 2016 года** каля 20 гадзін супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС і міжрайінспекцыі ў паляўнічых угоддзях з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбай быў затрыманы жыхар в. Вялец Глыбоцкага раёна, Курнееў Дзмітрый Эдуардавіч. За незаконнае паляванне складзены адміністрацыйны пратакол, суд Глыбоцкага раёна вынес пакаранне ў выглядзе штрафу на суму 525 рублёў з канфіскацыяй зброі і пазбаўлення права палявання на 1 год.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян не парушаць прыродаахоўнае заканадаўства.

Пра ўсе вядомыя і здзейсненыя факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8- 02156 - 2-86-70 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.

# У Беларусі дазволена ўстаноўка і выкарыстанне аднаго плацежнага тэрмінала некалькімі ІП

Пастановай Савета Міністраў і Нацыянальнага банка нумар 707/23 ад 8 верасня 2016 года скарэкціраваны правілы ўстаноўкі і выкарыстання індывідуальнымі прадпрымальнікамі плацежных тэрміналаў. Адпаведная інфармацыя размешчана на афіцыйным сайце беларускага ўрада, паведамляе БЕЛТА. У прыватнасці, дакументам прадугледжана магчымасць выкарыстання аднаго плацежнага тэрмінала, які дазваляе весці раздзельны ўлік аперацый прыёму аплаты, у размешчаных на плошчах аднаго гандлёвага цэнтра і (або) тэрыторыі аднаго рынку некалькіх аб'ектах, у якіх дзейнасць ажыццяўляецца адным або некалькіміиндывідуальнымі прадпрымальнікамі. Пры гэтым індывідуальным прадпрымальнікам павінна быць забяспечана магчымасць дастаўкі плацежнага тэрмінала да трымальніка банкаўскай плацежнай карткі непасрэдна ў аб'ект, дзе ажыццяўляецца аплата тавару (паслугі) пры выкарыстанні банкаўскай плацежнай карткі. Акрамя таго, індывідуальныя прадпрымальнікі маюць права ажыццяўляць дзейнасць без устаноўкі і выкарыстання плацежных тэрміналаў пры наяўнасці дакумента, які пацвярджае прыём банкам-эквайерам заяўкі на ўстаноўку плацежнага тэрмінала, на працягу двух месяцаў з даты ўзнікнення абавязку па ўстаноўцы і выкарыстанні плацежнага тэрмінала. Пастанова ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання.

*БелТА.*

# Новы памер утрымання з наймальнікаў сродкаў для выплаты зарплаты ўстаноўлены з 9 верасня ў Беларусі

У Беларусі пры разліку сродкаў, што падлягаюць пазачарговаму пералічэнню плацяжоў на пагашэнне запазычанасці па заработнай плаце, наймальнікі павінны браніраваць у разліку на аднаго работніка Br291,24. Гэты нарматыў прымяняецца з 9 верасня 2016 года, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны. У адпаведнасці з указам ад 27 лістапада 1995 года нумар 483 "Аб забеспячэнні своечасовай выплаты заработнай платы" з наймальнікаў, маючых запазычанасць па выплаце заработнай платы, у бестэрміновым парадку ўтрымліваюцца сумы, што адпавядаюць 1,5 памеру бюджэту пражытачнага мінімуму для працаздольнага насельніцтва, скарэкціраванага на індэкс спажывецкіх цэн на кожнага работніка з улікам каэфіцыентаў павышэння тарыфных ставак рабочых па тэхналагічных відах работ, вытворчасцях і галінах эканомікі. Паводле даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, індэкс спажывецкіх цэн за жнівень бягучага года склаў 99,9 працэнта. Такім чынам,



бюджэт пражытачнага мінімуму для працаздольнага насельніцтва (Br194,35), скарэкціраваны на індэкс спажывецкіх цэн за жнівень, складае Br194,16. Пры разліку сродкаў, якія падлягаюць пазачарговаму пералічэнню плацяжоў на пагашэнне запазычанасці па заработнай плаце, наймальнікі павінны браніраваць у разліку на аднаго работніка, што адпавядае 1,5 памеру бюджэту пражытачнага мінімуму для працаздольнага насельніцтва, скарэкціраванага на індэкс спажывецкіх цэн, - Br291,24.

*БелТА.*

## Мінсельгасхарч павялічыў экспартныя кошты на малако і масла

**З 9 верасня 2016 года Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі павялічыла мінімальныя экспартныя кошты на некаторыя віды малочнай прадукцыі. Гэта адбылося ўслед за ростам малочных катыровак на сусветных гандлёвых пляцоўках.**

Як паведамілі прадстаўнікі ведамства, экспартны кошт 1 кг масла тлустасцю 72,5% вырасла з 225 да 245 расійскіх рублёў, тлустасцю 82,5% – з 255 да 275 расійскіх рублёў.

Кошт сухога суцэльнага малака тлустасцю 25% і сухога малочнага прадукта тлустасцю вышэй 1,5% павялічылася з 205 да 215 расійскіх рублёў за 1 кілаграм.

Да гэтага экспартныя кошты на малочную прадукцыю карэктаваліся 23 жніўня.

*telegraf.by*

# Адрамантуй печ!

■ **А. Салодкі,**
*інспектар групы прапаганды Глыбоцкага РАНС.*

Уласнікам і жыхарам жылых дамоў, якія маюць пячное ацяпленне, перад пачаткам ацяпляльнага сезону варта звярнуць увагу на выкананне патрабаванняў пажарнай бяспекі як пры ўзвядзенні печаў, так і пры іх эксплуатацыі.

Так, неабходна праверыць спраўнасць печы і коміна, вычысціць сажу, заладзіць расколіны гліняна-пяшчаным растворам, абтынкаваць і пабяліць комін на гарышчы. Для даўгавечнай і бяспечнай эксплуатацыі пячнога ацяплення варта памятаць наступныя патрабаванні: печы і іншыя ацяпляльныя прыборы павінны мець супрацьпажарныя разробліванні (адступкі) ад гаручых канструкцый, а таксама перадтопачны ліст памерам 0,5 х 0,7 м на драўлянай падлозе ці падлозе з іншых гаручых матэрыялаў. Рэкамендуецца тапіць печы 2-3 разы ў дзень па 1-1,5 гадзіны, чым адзін раз працяглы час. Паблізу печаў і непасрэдна на іх паверхні нельга захоўваць згаральныя маёмасць ці матэрыялы, сушыць бялізну.

Не тапіце печы перад сном ці сыходам з дому. Попел з печы пралівайце вадой і выдаляйце ў адмыслова абсталяванае месца на адлегласці не меней 15 метраў ад будынкаў і збудаванняў. Не давярайце топку печы малалетнім дзецям і састарэлым людзям, якія могуць выпусціць штосьці з віду ці забыцца.

**Беражыце сваю маёмасць, сябе і блізкіх Вам людзей!**

## МНС інфармуе
**на 13.09.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 480;
Гібель людзей – 49, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 16;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Тыдні культуры Германіі пройдуць у Беларусі

**Тыдні культуры Германіі пройдуць у Беларусі з 15 верасня да 31 кастрычніка, паведамілі БЕЛТА ў пасольстве ФРГ у Беларусі.**

Паводле слоў арганізатараў, у праграму мерапрыемстваў уключаны кінапаказы і тэатральныя пастаноўкі, канцэрты і паэтычны паядынак, літаратурны калаж, аўтарскія чытанні, выстаўкі, майстар-класы і семінары на актуальныя тэмы ў 11 гарадах рэспублікі. "У гэтым годзе адзначаецца асаблівы юбілей. 17 кастрычніка 10-ы раз стартуе Тыдзень нямецкай мовы і культуры ў Брэсце, які за гэты час стаў неад'емнай часткай тыдняў Германіі, а таксама нямецкіх праектаў у галіне культуры ў Беларусі", - адзначылі ў пасольстве. Тыдні Германіі праводзяцца пасольствам Федэратыўнай Рэспублікі Германія сумесна з германскімі пасрэднікамі і арганізацыямі ў галіне культуры Беларусі ў супрацоўніцтве з беларускімі партнёрамі.

*БелТА.*

